ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# БЛЁК-НОТ АГІТАТАРА

АГІТМАСАВЫ АДДЗЕЛ ЦК КП(б)Б

## 11 ЛІПЕНЯ

(ДА ДНЮ 13-ГОДЗЬДЗЯ ВЫЗВАЛЕНЬНЯ БССР АД БЕЛАПАЛЯКАЎ)

ЛІПЕНЬ

№ 15 (30)

ПАРТЫЙНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1933

## Мы добра памятаем...

13 год таму назад, 11 ліпеня 1920 г., герoічная Чырвоная армія заняла горад Менск, ачысьціла яго ад белапольскіх окупантаў. Заняцьцем Менску быў нанесен руйнуючы ўдар па аплоце сусьветнай контррэволюцыі—белапанскай Польшчы, была адкрыта новая старонка ў гісторыі барацьбы за Савецкую Беларусь. Чырвоная армія, кіруемая партыяй бальшавікоў і вадзімая яе правадырамі—Леніным і Сталіным, на сваіх штыкох прынесла вызваленьне рабочым і працоўным сялянам Беларусі.

Перамога над окупантамі дасягнута цаной вялікіх афяр. Тысячы рабочых і сялян пралілі сваю кроў, аддалі сваё жыцьцё на франтох вайны, у дрымучых лясох партызанскай барацьбы. Шмат загінула ад холаду, голаду, эпідэміі, шмат адважных барацьбітоў замучаны і пакалечаны ў белапольскіх засьценках, застрэлены і павешаны ў вёсках і гарадох Беларусі. Сотні вёсак і рабочых кварталаў у гарадох Беларусі былі зьнесены з твару зямлі азьвярэлымі бандытамі. Цяжкія раны нанесьлі белапольскія окупанты па рабоча-сялянскай Беларусі.

Савецкая Беларусь, пад кіраўніцтвам УсеКП(б) і КП(б)Б, пры дапамозе брацкіх рэспублік Саюзу, аднавіўшы савецкую ўладу, хутка залячыла свае раны і шпаркімі тэмпамі рушылася ўперад па шляху социялістычнага будаўніцтва. Рабочая кляса БССР пад кіраўніцтвам партыі ў саюзе з сялянствам і пры падтрыманьні шырокіх мас працоўных зьмяніла твар Беларусі—гэтай былой прыгнечанай, цёмнай і адсталай ускраіны царскай Расіі. БССР стала індустрыяльна-аграрнай краінай з густой сеткай новапабудаваных фабрык і заводаў, колгасаў і саўгасаў, маючых магутную тэхнічную базу—МТС; краінай суцэльнай пісьменнасьці з вялікай сеткай устаноў ніжэйшай, сярэдняй і вышэйшай асьветы; краінай, дзе пасьпяхова будуецца культура—нацыянальная па форме і социялістычная па зьмесьце; краінай, дзе на аснове ленінскай нацполітыкі і прынцыпаў пролетарскага інтэрнацыяналізму забясьпечана брацкае супрацоўніцтва ўсіх нацыянальнасьцяй для агульнай мэты—пабудовы социялізму.

Але мы знаходзімся на рубяжы з капіталістычным сьветам. Там, за межамі Савецкай Беларусі, рабочыя і сяляне Заходняй Беларусі стогнуць пад крывавым ярмом польскага фашызму. „Ёсьць Беларусь у складзе СССР. Але ёсьць і другая Беларусь у складзе іншых дзяржаў“ (Сталін). Нашы перамогі ў будаўніцтве социялізму, у ажыцьцяўленьні ленінскай

нацыянальнай політыкі мобілізуюць рэволюцыйныя сілы працоўных мас Польшчы і Заходняй Беларусі. Прыклад СССР, адзінай бацькаўшчыны пролетараў усяго сьвету, увадушаўляе іх, узьнімае на барацьбу з капіталізмам, за пролетарскую рэволюцыю.

Капіталізм знаходзіцца ў паласе глыбокага і бязвыхаднага крызісу і ўсё больш узрастаючых супярэчнасьцяй. Імпэрыялістычныя краіны шукаюць выхаду з крызісу ў новых войнах і ў першую чаргу ў інтэрвэнцыі супроць Савецкага саюзу. Шырокім масам досыць вядомы антысавецкая сутнасьць „пакту 4-х“, інтэрвэнцыйныя замыслы англійскіх цьвёрдалобых і нямецкіх фашыстаў, якія ў апошні час нават гучна заяўляюць аб сваіх плянах нападу на СССР. Таксама вядома імпэрыялістычная антысавецкая політыка польскіх фашыстаў і іх паплечнікаў з Заходня-Беларускай нацдэмаўскай зграі.

Ідэолёг польскага фашызму ў Заходняй Беларусі Студніцкі досыць проста выказвае імкненьні польскага імпэрыялізму: „Для таго, каб польскі народ быў вялікім, для таго, каб польская дзяржава ажыцьцяўляла свае гістарычныя задачы на Ўсходзе, неабходна, каб Беларусь была часткай Польшчы як звычайная яе провінцыя ці проста як колёнія“. Гэтыя словы пана Студніцкага служаць нам добрым напамінам пра тое, што нам неабходна ўсямерна ўмацоўваць абарону нашай краіны,

што нам неабходна яшчэ больш напружана змагацца за выкананьне ўсіх гаспадарча-палітычных задач партыі, што нам неабходна яшчэ больш узьняць сваю рэволюцыйную пільнасьць на ўсіх вучастках соцыялістычнага будаўніцтва.

А паном імпэрыялістам мы скажам: рабочыя і сяляне БССР добра памятаюць жудасныя дні белапольскай окупацыі; паўтарэньня яе яны ня хочуць і не дапусьцяць ніколі! І ня шкодна будзе паном успомніць, як Чырвоная армія адкінула ў 1920 г. окупантаў далёка за межы сучаснай Беларусі Савецкай і Заходняй, аж да Варшавы! А наша Чырвоная армія з тэй пары ўзмацнілася ў сто разоў і гэта трэба моцна зарубіць на носе!

Мы-ж добра памятаем

і ніколі не забудзем.

## Як у 1919 г...

Скарыстаўшы цяжкае становішча Савецкіх рэспублік, якія былі заняты грамадзянскай вайной, падаўленьнем белагвардзейшчыны, вайной з Дзянікіным, калчакоўшчынай, францускімі, ангійскімі, японскімі інтэрвэнтамі і т. д., белапалякі пачалі наступаць на Савецкую Беларусь. У красавіку 1919 г. былі захоплены Беласток, Ваўкавыск, Слонім, Горадня, Вільня. 8 жніўня белапольскія войскі захапілі Менск

і лінія фронту прайшла каля Полацку, Барысаву, Бабруйску. У той час галоўныя сілы Чырвонай арміі біліся на іншых франтох з белагвардзейцамі і інтэрвэнтамі і на польскай граніцы была адносна невялікая ўзброеная сіла. Аднак перамога белапалякам далася ня лёгка, ня гледзячы на перавагу ўзброеных сіл белапольскай арміі.

Захоп Вільні сустрэў героічны адпор рабочых і толькі пасьля 3-дзённых упорных баёў з Чырвонымі часьцямі белапалякам удалося заняць Вільню. Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі рабочыя і працоўныя сяляне Беларусі і Літвы арганізавалі адпор белапалякам. Толькі пасьля таго, як польская артылерыя значна разбурыла горад і падцягнула вялікія вайсковыя сілы, Чырвонае войска мусіла адступіць.

Белапольская окупацыйная армія, у якой аб'ядналіся чорныя сілы контррэволюцыі ўсіх нацыянальнасьцяй, помсьціла рабочым і сялянам. Комуністычная партыя Літвы і Беларусі кінула заклік, мобілізавала рабочых і сялян для абароны заваёў Кастрычніка, для абароны Савецкай краіны. Ня гледзячы на тое, што не хапала зброі, комуністычная партыя організавала мужную самаабарону. Шмат якія гарады Беларусі, як Новавілейка, Маладзечна, Ракаў, Гарадок, Ратамка і інш. пераходзілі па некалькі раз з рук у рукі. Пролетарыят героічна адбіваў атаку белапольскай зграі.

Поўная адданасьць савецкай уладзе і компартыі з боку рабочых і сялянскіх мас Беларусі ўсіх нацыянальнасьцяй яскрава пацьвярджалася дабравольным уступленьнем у Чырвоную армію—папаўненьнем радоў барацьбітоў супроць белапольскіх окупантаў. Непахісная воля абараняць сваю ўладу і заваёвы Кастрычніцкай рэволюцыі да апошняй каплі крыві выявілася ў тым, што толькі праз 3 месяцы бесьперапынных баёў, ня гледзячы на вялізарную перавагу ўзброеных сіл, окупацыйнаму войску ўдалося 8 жніўня заняць Менск. На адлегласьці ад Маладзечна да Менску (70 кілёмэтраў) упорныя жорсткія баі цягнуліся пяць тыдняў. Пад бесьперапынным артылерыйскім і кулямётным агнём героічны пролетарыят абараняў подступы да гораду Менску. 12 дзён біліся чырвоныя войскі з войскамі окупантаў, адбівалі атакі белапалякаў, калі яны былі ў 7—8 кілёмэтрах ад Менску і пераходзілі ў контрнаступ, адкідалі іх за 30 кілёмэтраў і больш. 81 дзень пасьля захопу Вільні абаранялі рабочыя і сяляне свой родны Менск, але сіла контррэволюцыйных белапольскіх войск папаўнялася пры дапамозе сусьветнага імпэрыялізму новымі часьцямі, і чырвоныя часьці мусілі адступіць.

У руках белапалякаў апынулася большая частка Беларусі. Окупанты гаспадарылі ў краіне.

## Прышлі польскія паны...

Беларусь была окупавана белапольскімі войскамі ў інтарэсах капіталістаў і памешчыкаў Польшчы, у якіх Кастрычніцкая рэволюцыя на Беларусі адняла фабрыкі, заводы і зямлю. Яны жадалі вярнуць сабе заводы і маёнткі, аднавіць эксплёатацыю і прыгон, аграбіць краіну,ператварыць яе ў сваю колёнію. Польскія імпэрыялісты, дзейнічаючы ў інтарэсах капіталістаў і памешчыкаў, адначасова выконваюць волю сусьветнай буржуазіі, якая імкнулася задушыць савецкія рэспублікі, як базы сусьветнай рэволюцыі.

Адразу-ж пасьля окупацыі ўрад Пілсудзкага выдае загад, у якім гаворыцца:

> „Уся прыватная ўласнасьць, будзь яна гвалтоўна захоплена, ці мо' выпадкова трапіўшая, павінна быць безадкладна зьвернута ўласьнікам. Уласьнікі зямельнай маёмасьці, або іх правамоцныя намесьнікі абавязаны да 10 верасьня прыняць у сваё ўладаньне зямельныя маёмасьці“.

„Агнём і мячом“ польскія окупанты праводзілі ў жыцьцё гэты загад ураду Пілсудзкага. Для гэтага пасылаліся карныя экспэдыцыі, якія зьніштажалі непакорлівых, спальвалі цэлыя вёскі, сотні рабочых і сялян арыштоўвалі, падвяргалі катаваньням. Расстрэл і паве-

шаньне—такі быў прысуд „хуткі і правільны“ польскіх паноў. Пагром, аграбленьне пагалоўнае выразаньне яўрэйскага насельніцтва было масавым зьявішчам.

Вось факты, якія падаваліся ў гзэце „Зьвязда“:

„Ноччу з 3 на 4 чэрвеня белапалякамі, у часе налёту на вёску Казурычы і Стаўпішчы, з мэтай сыгналізацыі, спальваліся дамы. У абедзьвюх вёсках грабілі насельніцтва. У Казурычах забралі жывёлу, продукты харчаваньня, бялізну і грошы. У Стаўпішчах забралі 5 коняй, 6 кароў, 41 сьвіньню, 8 авечак, 51 курыцу, продукты харчаваньня і інш. У часе грабяжу легіянэры зьдзекваліся над жанчынамі, білі вінтоўкамі і таптал ботамі“.

„У суботу, 19 чэрвеня, а 5 гадзіне раніцы быў зроблен чарговы налёт белапалякаў першага пазнанскага вялікапольскага палка на м. Шчэдрын, Бабруйскага павету. На гэты раз палякі ўскочылі ў дом грамадзяніна Партона, выгналі на вуліцу бацькоў і накінуліся на 16-гадовую дачку, каб згвалціць яе. Яна, абараняючыся ад белагвардзейцаў, вырвалася з іх рук і выскачыла праз вакно на вуліцу, але была забіта разрыўной куляй, якая вырвала ў яе ўсе ўнутра-

насьці. Пасьля гэтага палякі накінуліся на маёмасьць мясцовых жыхароў і забралі ўсе, што трапіла ім пад рукі".

У Менску белапалякі распачалі паляваньне на старых яўрэяў, з якіх зьдзекваліся, адразалі ім бароды. Разгрымілі і аграбілі 590 крам і магазынаў і 283 прыватных дамоў. Страты гандлёвых устаноў дасягалі да 8 млн. руб., страты прыватных—да 5 млн. руб.

Жудасны тэрор і палітыка пагромаў былі сыстэмай панаваньня окупантаў, сыстэмай, з дапамогай якой яны імкнуліся затапіць у моры крыві рэвалюцыйны рух, задушыць нацыянальна-вызваленчую барацьбу, замацаваць панаваньне буржуазіі і памешчыкаў у краіне. Але як не лютаваў белы тэрор, ён ня мог зламаць волі працоўных мас да барацьбы за соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне. Комуністычная партыя Беларусі з глыбокага падпольля заклікала масы да організацыі, да дружнага масавага адпору окупантам. Заклік комуністычнай партыі знаходзіў шырокі водгук у радох рабочай клясы і асноўных мас працоўнага сялянства. Рады барацьбітоў расьлі, загартоўваліся. Гэта бачылі і окупанты. Яны праводзілі масавыя арышты, каб вылавіць комуністаў, зьнішчыць авангард рабочай клясы. Над палітзьняволенымі окупанты ўчынялі інквізыцыю, патрабавалі „прызнаньня":

„Кожны вечар Менская контрвыведка робіць з турмы сапраўдную бойню. Політычным арыштаваным зьвязваюць рукі і ногі, як баранам, і па-зьверску б'юць жалезнымі прутамі. А каб яны ня крычалі, завязваюць ім рот анучамі. Нават жанчын катуюць такім способам. Хворых і слабых жанчын кідаюць у халодныя і цёмныя адзіночкі. Кожны вечар паўтараюцца такія экзэкуцыі і з іншымі політычнымі".

Сотні такіх жудасных фактаў могуць расказаць сотні і тысячы рабочых і сялян Беларусі, паспрабаваўшых на сваёй сьпіне „культуру" белапанскай Польшчы. Ня зьлічыць афяр окупацыі, не забыць пра іх.

## З імі былі...

На дапамогу окупантам прышла буржуазія ўсіх нацыянальнасьцяй. Яна (беларуская і яўрэйская буржуазія) бачыла ў твары окупантаў сваіх збаўцаў ад „бальшавіцкага іга". Яны спадзяваліся атрымаць сваю долю з награбленага белапольскімі окупантамі дабра. Яны дзейнічалі агульным фронтам з усёй сусьветнай буржуазіяй.

Усе буржуазна-нацыяналістычныя партыі на Беларусі ўзварушыліся. Яўрэйскія нацыя-

налісты хутка забыліся пра пагромнае майстэрства окупантаў, беларуская буржуазія— пра палёнізатарскую палітыку окупантаў, пра разгром беларускіх школ, пра выданы ўладамі загад, што „на абшарах, занятых польскімі войскамі, урадавай мовай лічыцца мова польская“. Беларускія нацыянал-дэмократы, якія яшчэ раней лізалі боты кайзэру Вільгельму, умаляючы яго прыняць пад сваё яснавяльможнае апякунства „беларускі народ“, стукаліся ў пярэдніх пакоях генэралаў саюзных армій у Адэсе, просячы іх аб тым-жа; яны, гэтыя гандляры, крывёю і потам рабочых і сялян Беларусі, вуснамі свайго поэта Алеся Гаруна выказвалі маршалу Пілсудзкаму

> „гарачую падзяку за збавеньне Менску і Меншчыны ад новага цяжкага нападу маскоўскага імпэрыялізму, які на гэты раз убраўся ў бальшавіцкую вопратку“.

Гэта яны, беларускія нацдэмы, выказвалі надзею, што Пілсудзкі „вызваліць“ Віцебск, Магілеў і Смаленск, гэта яны ліслíва гаварылі яму: „здароў будзь, прыходзь да нас, наш госьць мілы, суседзе дарагі“.

Заклік да „суседа дарагога“, каб сумесна скінуць уладу рабочых і сялян, аднавіць ўладу капіталістаў і памешчыкаў, беларускія нацдэмы паўтаралі і пасьля, у часе пераможнага будаўніцтва соцыялізму, калі яны спрабавалі падрыхтаваць глебу для інтэрвэнцыі супроць

СССР, для аднаўленьня капіталістычнай буржуазнай „народнай беларускай рэспублікі“.

Гэта беларускія нацыянал-дэмократы запрасілі бандыта Булак-Балаховіча, організатара яўрэйскіх пагромаў, прыйсьці на Беларусь са сваім атрадам, каб формаваць „беларускае войска“ ў дапамогу окупантам. Гэта той самы Балаховіч, які пазьней рабіў пры дапамозе польскага ўраду бандыцкія налёты на Савецкую Беларусь, уваскрашаў нядаўнія „геройствы“ польскіх жандараў.

Не адставалі кадэты, меншавікі, бундаўцы. Яны, як і беларускія нацдэмы, былі заклятымі ворагамі рабочых і сялян Беларусі, сумесна з окупантамі мелі адну мэту—душыць пролетарскую рэволюцыю.

## А мы не зявалі...

Комуністычная партыя Беларусі—правадыр рабочых і сялянскай беднаты—пайшла ў глыбокае падпольле. І ня гледзячы на шалёны тэрор окупантаў, партыя з першых-жа дзён окупацыі ўстанавіла моцныя сувязі з рабочымі масамі праз профсаюзы, з масамі бядняцка-серадняцкага сялянства, дзе ўплыў партыі быў вельмі шырокі і моцны. Організоўваюцца баявыя атрады рабочых на прадпрыемствах, партызанскія атрады на вёсках.

Цэлыя вёскі ішлі на заклік бальшавікоў у партызаны. Партызанскі рух ахопліваў цэлыя

паветы. Гэта былі ўзброеныя атрады, якімі кіравалі бальшавікі і якія наносілі адчувальныя ўдары па окупантах, часта паралізуючы дзейнасьць окупацыйнай арміі.

На чале партызанскага руху на Меншчыне стаяў т. В. Шаранговіч, цяперашні сакратар ЦК КП(б)Б. Партызанскімі атрадамі ў Бабруйшчыне кіраваў т. Ляўкоў. Дзякуючы моцнаму бальшавіцкаму кіраўніцтву партызанскія атрады былі досыць організаваны, згуртаваны і здольны да актыўнай барацьбы супроць окупантаў. Высокую сьвядомасьць і геройства ня раз паказвалі беларускія партызаны, наганяючы жах на окупантаў, падрываючы і паралізуючы іх дзейнасьць. Любоўю і падтрымкай абкружалі сяляне партызанаў, дапамагаючы ім у рэволюцыйнай барацьбе супроць окупантаў.

> „Мы існуем!—аб гэтым гаворыць кожны паўстанцкі рух, які з ўсё большай сілай і ўсё часьцей праяўляецца. Мы існуем!—аб гэтым сьведчаць забастоўкі, рабочыя організацыі, якія нанава ствараюцца, дэмонстрацыі і протэсты“...

Гэтыя гарачыя словы кідала ў гушчы рэволюцыйных мас з глыбокага падпольля компартыя Літвы і Беларусі. Героічная рабочая кляса Польшчы, зьвязаная з намі шматгадовай і супольнай барацьбой супроць царызму, у гэты час праводзіла настойлівую барацьбу

з уласнай імпэрыялістычнай буржуазіяй, за абарону Савецкай Расіі.

Героічная работа компартыі, барацьба чырвоных партызан моцна падтачвалі сілы і ўладу окупантаў. У гэты час значна ўзрасьлі і ўмацаваліся сілы Чырвонай арміі на заходнім фронце. Чырвоная армія перамагла на асноўных франтох грамадзянскай вайны і рушылася супроць белапольскіх окупантаў.

Савецкі ўрад, будучы ўвесь час супроць імпэрыялістычнай вайны і захопніцкай палітыкі, ня раз прапанаваў польскаму ўраду заключыць мір. Аднак польскі ўрад не жадаў адмовіцца ад сваёй імпэрыялістычнай палітыкі і нават пачаў новае наступленьне пры дапамозе Антанты. Аднак Чырвоная армія, якая значна ўзмацнілася, апіраючыся на рэволюцыйныя сілы падпольля і партызанскі рух, пры шырокай падтрымцы заходня-эўропейскага пролетарыяту, ударам за ўдарамі разьбіла окупантаў, вышвырнула іх з межаў Беларусі.

10 ліпеня белапольскі фронт быў разарваны і армія белапалякаў вымушана была хутка адступаць, атрымліваючы моцныя ўдары ў сябе ў тылу ад партызанскіх атрадаў. Разам з окупантамі ўцякла беларуская нацдэмаўская контррэволюцыя, буржуазія і памешчыкі. 11 ліпеня Чырвоная армія заняла Менск. Працоўныя БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б і з дапамогаю

савецкіх рэспублік пачалі адбудову народнай гаспадаркі, разгарнулі будаўніцтва соцыялістычнай Савецкай Беларусі.

## 13 год у нас

Савецкая Беларусь—неадрыўная сустаўная частка Савецкага саюзу, верны форпост на рубяжы з капіталістычным сьветам—за 13 год упорнай работы і барацьбы дасягнула вялізарных перамог. З краіны эканомічна і культурна адсталай, былой колёніі расійскага царызму, якая мела ў дарэволюцыйныя часы 70 проц. няпісьменных, з адсталай сельскай гаспадаркай і прамысловасьцю,— Беларусь шпаркім тэмпамі ператвараецца ў краіну індустрыяльна-аграрную.

У чым сакрэт нашых перамог, нашага бурнага нябачанага і немагчымага для буржуазных краін росту?

Нашы посьпехі дасягнуты дзякуючы ажыцьцяўленьню генэральнай ліні партыі, дзякуючы кіраўніцтву КП(б)Б. Рабочая кляса і колгасьнікі зьяўляюцца гаспадарамі краіны і пад кіраўніцтвам сваёй партыі ствараюць самі для сябе матэрыяльныя і культурныя багацьці. Буйны рост разьвіцьця народнай гаспадаркі БССР забясьпечан дзякуючы правільнай нацыянальнай політыцы нашай партыі і ўсямернай дапамозе рабочых і ўсіх працоўных Савецкага саюзу. Савецкая Беларусь па сваіх тэмпах

культурна-экономічнага будаўніцтва выходзіць у першыя рады сярод іншых нацыянальных рэспублік. Расьце і разьвіваецца наша індустрыя, мацнеюць нашы колгасы. Ужо скончана пабудова фундаманту соцыялістычнай экономікі, і краіна ўступіла ў пэрыод соцыялізму. Беспаваротна вырашана ленінскае пытаньне „хто каго" супроць капіталізму, на карысьць соцыялізму; як у прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы Савецкая краіна цьвёрда замацавалася на соцыялістычным шляху.

Як ва ўсім Савецкім саюзе, так і ў БССР плян пяцігодкі ў чатыры гады з посьпехам выканан. Па продукцыі прамысловасьці за чатыры гады пяцігадовы плян выканан на 115 проц., гэта значыць, што прамысловасьць ў параўнаньні з 1927-28 г. павялічылася ў 4,16 разоў, а ў параўнаньні з даваенным узроўнем у 8 разоў. У выніку выкананьня пяцігодкі пабудавана многа новых заводаў, якіх раней ня было ня толькі ў Беларусі, але і ва ўсёй расійскай імпэрыі. Як напрыклад, фабрыка штучнага шоўку, выраб запасных частак для трактароў і т. д.

Па капіталаўкладаньнях у дзяржаўную прамысловасьць і сампрамкоопэрацыю пяцігодку мы выканалі на 105 проц., а па групе „А" капіталаўкладаньні выкананы на 130,6 % (уся сума ўкладаньняў дайшла ў нас да 264 млн. руб., замест вызначаных пяцігодкай 251 млн. руб.). У сувязі з гэтым значна павя-

лічылася ўдзельная вага прамысловай прадукцыі ў адносінах да продукцыі сельскай гаспадаркі БССР. Пры няўхільным росьце сельскай гаспадаркі зараз ужо продукцыя прамысловасьці БССР даходзіць прыкладна да 52—53% па сваёй удзельнай вазе ў адносінах да продукцыі сельскай гаспадаркі.

У БССР мы таксама пабудавалі за гэтыя 4 гады значную колькасьць прамысловых прадпрыемстваў; найбольш буйных з іх мы пабудавалі 35 прадпрыемстваў. У сувязі з гэтым рэзка зьмяніўся характар нашай прамысловасьці ў бок павялічэньня ўдзельнай вагі буйных прадпрыемстваў, якія занялі пануючае становішча ва ўсёй прамысловасьці. Тэмпы росту прамысловасьці БССР значна перавышаюць гіганцкі тэмп росту па СССР. Так сярэдні штогадовы прырост прамысловай продукцыі па СССР на абсягу пяцігодкі складае 22 проц., а сярэдні прырост па БССР складае 49 проц.

Тут з усёй сілай сказваецца ленінская лінія нашай партыі, яе нацыянальная палітыка, ажыцьцяўляемая пад кіраўніцтвам геніяльнага прадаўжальніка справы Леніна, нашага правадыра—т. Сталіна. Ня толькі ліквідаваны рэшткі палітычнай і прававой няроўнасьці, але аказваецца ўсямерная дапамога адстаючым нацыянальным рэспублікам, каб у хутчэйшы тэрмін яны маглі дагнаць перадавыя рэспублікі як ў галіне культуры, так і экономікі.

Дасягненьні і перамогі БССР ёсьць перамога генэральнай лініі партыі і ленінскай нацыянальнай політыкі.

## А ў іх...

У нас сусьветна-гістарычныя перамогі соцыялізму, росквіт нацыянальных рэспублік, няўхільны рост дабрабыту шырачэзных працоўных мас. А ў іх...

Сусьветны крызіс, які расхістаў усю капіталістычную сыстэму, наблізіў яе гібель. Нават офіцыйныя даныя Лігі нацый паказваюць:

> „Сусьветны экспорт у грашовым выражэньні складаў 2 552 млн. залатых даляраў у першым квартале 1933 г., супроць 3 027 млн. дал. за той-жа пэрыод 1932 г.; 4 531 млн. дал. у 1931 г. і 6 520 млн дал. у 1930 г., супроць 7 317 млн. дал. у 1929 г.
>
> Сусьветны імпорт складаў 2 829 млн. дал. у 1933 г., 3434 млн. дал. у 1932 г., 5154 млн. дал. у 1931 г., 7364 млн. дал. у 1930 г. і 7972 у 1929 г.
>
> Такім чынам сусьветны экспорт скараціўся ў бягучым годзе на 16 проц. у параўнаньні з леташнім годам і на 65 проц. у параўнаньні з 1929 г., г. зн. экспорт за першыя тры месяцы 1933 г.

складае ўсяго 35 проц. сусьветнага экспорту за першы квартал 1929 г.

Сусьветны імпорт скараціўся ў першым квартале 1933 г. на 18 проц. у параўнаньні з леташнім годамі на 65 проц. у параўнаньні з першым кварталам 1929 г., складаючы толькі 35 проц. экспорту за той-жа пэрыод 1929 г.“

Асабліва моцна ўдарыў крызіс па фашысцкай Польшчы. Большасьць прадпрыемстваў не працуе, значна скараціўся гандаль, па афіцыйнай статыстыцы ёсьць звыш 500 тыс. беспрацоўных, а калі ўлічыць беспрацоўных дробных прадпрыемстваў, сельгасрабочых, то будзе больш за мільён чалавек. Гэта значыць, што ў некалькі раз больш за мільён людзей (уключаючы сем'і рабочых) прызначаны на галодную сьмерць. Яшчэ горш жывуць рабочыя і сяляне Заходняй Беларусі. „Дзеньнік Віленскі“ піша:

„Становішча беспрацоўных жудаснае. Яны кормяцца сабачым мясам, лушпінамі ад бульбы і іншымі адкідамі са сьметнікаў.

Лік самагубстваў на Віленшчыне ўзрос у параўнаньні з мінулым годам на 90 проц. і на 189 выпадкаў самагубстваў 149 прыпадае на беспрацоўных. Згодна ўрадавай статыстыцы з памерших за 1932 г. у Беластоку толькі адзін памёр

са старасьці, астатнія ад розных эпідэмічных хвароб, голаду і т. д.".

Ня лепшае становішча і ў сельскай гаспадарцы. Як падае тая-ж газэта:

„У Баранавіцкім павеце зусім зьніклі авечкі. Непасрэднай прычынай гэтага зьяўляецца недахват агульных пашаў, на якіх пасьвілі авечак. Недахват пашы паўстаў з прычыны пераходу вёсак праз камасацыю на хутары".

Палітыка польскага фашызму ў вёсках Заходняй Беларусі вядзе да крайняга разарэньня і зьбядненьня бядняцка-серадняцкіх мас, прызначаных гэтай палітыкай на канчатковае разбурэньне іх гаспадарак і паміраньне з голаду. Польскі ўрад прадаўжае насаджэньне асаднікаў на землях Заходняй Беларусі, вызваляе іх ад падаткаў і ўскладае ўвесь падатковы цяжар на беларускія працоўныя масы.

За 13 год окупацыі Зах. Беларусі польскі фашысцкі ўрад пасьпеў закрыць усе існаваўшыя 412 беларускіх школ, 7 гімназій, 2 настаўніцкія сэмінарыі, а зараз не асталося і сьледу беларускіх школ. Да таго дайшлі ў сваёй зьвярынай нянавісьці фашысцкія „збаўцы беларускага народу", што штрафуюць беларускіх дзяцей па 5 грошаў за кожнае сказанае беларускае слова! Беларускія нацыянал-

фашысты, верныя слугі польскага фашызму, дапамагаюць яму затапіць у крыві рэвалюцыйны нацыянальна-вызваленчы рух у Заходняй Беларусі.

## Расьце рэвалюцыйны фронт!

Героічная компартыя Польшчы і Зах. Беларусі ва ўмовах лютага тэрору вядзе напружаную барацьбу супроць фашызму, супроць рыхтуючагася ваеннага нападу на СССР, за рэволюцыйны выхад з крызісу. Партыя ўзначальвае рэволюцыйныя выступленьні рабочых, бурныя дэмонстрацыі беспрацоўных, рэволюцыйную барацьбу польскіх і акупаваных беларускіх і украінскіх сялян супроць ураду голаду і вайны.

Компартыя Заходняй Беларусі, ня гледзячы на азьвярэлы тэрор, вядзе пад кіраўніцтвам КПП барацьбу супроць карных экспэдыцый у беларускай вёсцы, кіруе героічнай барацьбой рабочых Беластоку, Вільні супроць капіталістаў, узьнімае гэтую барацьбу на ўзровень політычных задач компартый у барацьбе з фашызмам. Вось факты, якія падае орган ЦК КПЗБ—„Бальшавік":

„4 сьнежня а 17-й гадзіне пачалася ў Баранове масоўка пад лёзунгам супроць карных экспэдыцый у Баранове, супроць камасацыі. На масоўку прышло разам з

насельніцтвам гэтай вёскі 500—600 чалавек. Выступіў адзін селянін, які зрабіў справаздачу аб акцыі ва ўсім раёне і выкінуў лёзунг, пасьля чаго быў выкінут сьцяг і сьпявалі „Інтэрнацыянал". Наладжаная дэманстрацыя рушыла з пяяньнем „Сьмела таварышы ў ногу". На другі дзень 5 сьнежня а 9-й гадзіне раніцы прыбыла другая карная экспэдыцыя з 60 паліцыянтаў і некалькіх дзесяткаў шміцляў. Карная экспэдыцыя прайшла па 10—12 вёсках (Клеставічы, Кавсоўка, Лікоўка, Гароднікі, Гекаловічы, Дадашэвічы, Кругляны і інш.). Усюды катавала каго толькі хацела. Гэта выклікала яшчэ больш рашучы масавы адпор".

Вось што расказваюць вачавідцы пацыфікацыі ў Камень-Кашырску:

„Калі прыехаў атрад паліцыі ў в. Сжаляр і пачалі браць усіх пагалоўна і зьбіваць, тады зьбеглася з 4-х вёсак многа людзей і прагналі паліцыю, так што яна ўцякала без агляддкі. Праз некалькі гадзін прыбыў атрад паліцыі значна большы і пачалі расправўляцца над сялянамі, зьнішчаючы іх хатнія здабыткі. Палова насельніцтва гэтых 4-х вёсак арганізавалася ў атрад са зброяй у руках і пачалі фармальны бой з паліцыяй. Было некалькі забіта паліцыянтаў і сялян. Хутка на

дапамогу паліцыі прыбылі новыя сілы і паліцыя адціснула паўстанцаў у лес. Пасьля гэтага чорныя крумкачы зноў распачалі расправу над сялянамі, ды такую, што той, хто стаяў у баку, цяпер таксама браў у рукі што папала і далучаўся да паўстанцаў. Усё насельніцтва 4-х вёсак і старыя, і малыя пайшлі ў лес. Усё часьцей стала чуваць, што там сям адбыўся напад і спалілі панскі двор ці пастарунак. Прыбыла шмат войска".

Агульная трохмесячная забастоўка тэкстыльшчыкаў Беластоку паказала выключную стойкасьць і арганізаванасьць пролетарыяту. Яна выклікала новую хвалю забастовак па ўсёй Зах. Беларусі ў адзнаку солідарнасьці. Ня гледзячы на здрадніцтва соцыял-фашыстаў, забастоўка пад рэволюцыйным кіраўніцтвам забастовачнага комітэту была праведзена з посьпехам.

Гэтая забастоўка сьведчыць, што рэволюцыйны рух у Зах. Беларусі ўзьняўся на вышэйшую ступень політычнай барацьбы, на ўзровень барацьбы за гегемонію пролетарыяту. Важна таксама падкрэсьліць узмацненьне саюзу пролетарыяту з рэволюцыйным сялянствам, што асабліва бачна па сустрэчнай хвалі забастовак сялян лесарубаў і возчыкаў у Белавежы, Прушаншчыне, Слонімшчыне ў адказ на беластоцкую забастоўку. Усюды расьце

клясавая інтэрнацыянальная солідарнасьць, якая праяўляецца ў масавай кампаніі дапамогі сялян бастуючым рабочым.

## Узмацняць абарону краіны

Сусьветныя імпэрыялісты рыхтуюць узброены напад на Краіну саветаў. Пачэснае месца ў гэтай падрыхтоўцы ўзброенага нападу займае і фашысцкая Польшча. Якія-б ня былі перастаноўкі сіл і перамены роляй сярод імпэрыялістычных краін, адно астаецца нязьменным—імкненьні імпэрыялістаў задушыць краіну соцыялізму—ня толькі не паслаблі, наадварот, яны ўзмацняюцца з кожным днём.

Напружанае становішча на далёка-ўсходняй граніцы, антысавецкія пляны нямецкіх фашыстаў і англійскіх цьвёрдалобых, мары аб колёнізатарскай палітыцы „на ўсход" за лік Савецкай Украіны і Беларусі прымушаюць нас быць напагатове, нясупынна ўмацоўваць абароназдольнасьць нашай краіны, сілу і магутнасьць Чырвонай арміі, быць гатовымі ў любую мінуту даць адпор ворагу, адкуль-бы ён ня ўздумаў напасьці на Савецкі саюз.

Наш савецкі ўрад няўхільна вядзе палітыку міру. Працоўныя народы СССР заняты вялізарнай соцыялістычнай будоўляй, яны накіроўваюць свае намаганьні на ажыцьцяўленьне гіганцкіх плянаў другой пяцігодкі. „Нам чужой зямлі непатрэбна, але сваёй зямлі, ніводнага

вяршка сваёй зямлі не аддамо нікому" (Сталін).

Але мы жывем у капіталістычным акружэньні. Ідзе спаборніцтва дзьвюх сыстэм: соцыялістычнай і капіталістычнай. Соцыялістычная сыстэма ідзе ў гару, яна даказала сваю жыцьцёвасьць, за ёю будучыня. Капіталістычная сыстэма гніе ў корані, развальваецца, глядзіць ужо ў сваю магілу. Перад тварам усё ўзрастаючых унутраных і зьнешніх супярэчнасьцяй імпэрыялістычных краін, перад тварам росту рэволюцыйных сіл пролетарыяту—магільшчыка капіталізму, імпэрыялістычная буржуазія шукае выхаду ў новай імпэрыялістычнай вайне і ў першую чаргу ў інтэрвэнцыі супроць СССР — базы сусьветнай пролетарскай рэволюцыі.

Пролетарыят, колгаснае сялянства і працоўныя БССР, знаходзячыся на стыку двух сьветаў, на рубяжы з капіталістычным Захадам, на граніцы з фашысцкай Польшчай, будзе ўсямерна ўзмацняць абарону савецкіх граніц ад спроб імпэрыялістычных драпежнікаў парушыць цэльнасьць нашых савецкіх граніц.

## За ленінскую нацполітыку

Клясавы вораг разьбіты, але не дабіты. Кулацтва і іх ідэолёгі—нацдэмы, прыкрываючыся фальшыва-нацыянальным флагам,

стараюцца шкодзіць нам, дзе толькі можна. КП(б)Б выкрыла і разграміла контррэвалюцыйны беларускі нацдэмократызм, яго інтэрвэнцыянісцкую сутнасьць як агентуры польскага фашызму, яго шкодніцкую дзейнасьць у галіне сельскай гаспадаркі, на культурным фронце і т. д.

Але клясавы вораг не здае сваіх позыцый бяз бою. На лютаўскім пленуме ЦК і ЦКК КП(б)Б былі ўскрыты рад грубейшых прарываў і памылак у рабоце Наркомасьветы, ДВБ, Акадэміі навук, на гістарычным фронце. Пленум даў разгорнутую ацэнку гэтым фактам:

> „Гэтыя клясава-варожыя вылазкі і дзеяньні антысавецкіх, эсэраўскіх, нацыянал-дэмократычных і бундаўскіх элемэнтаў, якія часта выступаюць пад фальшыва-нацыянальным флагам, маглі мець месца ў БССР галоўным чынам таму, што, ня гледзячы на неаднаразовыя ўказаньні і перасьцярогі з боку ЦК УсеКП(б), партыйныя і савецкія організацыі Беларусі не зрабілі для сябе сапраўды бальшавіцкіх вывадаў з урокаў нацдэмаўшчыны, прышчэпаўшчыны, разьбітых, але яшчэ не дабітых у БССР і якія актывізуюцца за апошні час“ (з рэзолюцыі пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б).

Сакратар ЦК КП(б)Б т. Гікало ў сваім дакладзе з усёй рашучасьцю выкрыў памылкі

партыйных і савецкіх організацый у нацпытаньні, вызначыў шляхі да іх выпраўленьня. Кіруючыся пастановамі пленуму ЦК і ЦКК і ўказаньнямі т. Гікало, усе організацыі КП(б)Б павінны весьці сапраўды бальшавіцкую барацьбу за выпраўленьне меўшых месца памылак, за ажыцьцяўленьне ленінскай нацполітыкі і прынцыпаў пролетарскага інтэрнацыяналізму, за разьвіцьцё культуры нацыянальнай па форме і социялістычнай па сваім зьмесьце.

„З прычыны асаблівых умоў клясавага і социяльнага парадку, у якіх расла і ўмацоўвалася КП(б)Б, у яе радох нямала выхадцаў з дробна-буржуазных партый. У сувязі з гэтым да гэтага часу яшчэ дзе-ні-дзе, напрыклад ідэалізуецца бунд, да гэтага часу некаторыя члены партыі не разумеюць апартуністычнай меншавіцкай сутнасьці бунду“ („Правда“).

На фабрыцы „Кастрычнік“ у Менску ў час чысткі партыі, паасобныя члены партыі, былыя бундаўцы проста ідэалізавалі бунд, змазвалі яго рэакцыйную контррэволюцыйную сутнасьць. Адзін нават дагаварыўся да таго, што т. Фрунзэ амаль быў у бундаўскай організацыі. Ісьці на такі паклёп яму патрэбна было, каб ідэалізаваць Бунд захаваць яго меншавіцкі контррэволюцыйны твар.

Такія спробы мелі месца таксама ў Віцебску, Бабруйску і інш гарадох. Вялікадзяржаўны шовінізм, гэта найбольш небясьпечны ўхіл у нацпытаньні на даным этапу за апошні час праявіўся на шэрагу вучасткаў. Маецца значная актывізацыя нацыяналістычных, нацдэмократычных элемэнтаў. Аб гэтым красамоўна сьведчаць выкрытыя прарывы ў рабоце НКА, ДВБ, на радзе вучасткаў ідэолёгічнай барацьбы.

КП(б)Б праводзіць вялізарную палітычна-выхаваўчую работу, каб перамагчы рэшткі нацдэмократызму, бундызму, вядзе разгорнутую барацьбу за правільнае правядзеньне нацпалітыкі.

Сыгналы „Праўды", пастановы пленуму ЦК і ЦКК, указаньні т. Гікало патрабуюць ад нас яшчэ больш настойлівай барацьбы з ухіламі ад ленінскай нацпалітыкі, з рэцыдывамі нацдэмократызму, адрыжкамі бундызму—за асноўныя прынцыпы пролетарскага інтэрнацыяналізму, накіраваных на „зьліжэньне пролетараў і паўпролетараў розных нацыянальнасьцяй для сумеснай рэвалюцыйнай барацьбы" (з програмы ЎсеКП(б).

## Асвоіць тэхніку, узьняць якасьць продукцыі

Мы ўступілі ў другую пяцігодку—пяцігодку пабудовы бяскласавага социялістычнага гра-

мадзтва. Першая пяцігодка была пяцігодкай будаўніцтва новых заводаў, пяцігодкай будаўніцтва новых прадпрыемстваў у сельскай гаспадарцы—саўгасаў і колгасаў.

Другая пяцігодка будзе пераважна пяцігодкай асваеньня новых прадпрыемстваў прамысловасьці, пяцігодкай палітычнага і арганізацыйнага ўмацаваньня новых прадпрыемстваў у сельскай гаспадарцы—саўгасаў і колгасаў. Асваеньне новых прадпрыемстваў азначае асваеньне тэхнолёгічнага працэсу; арганізацыя рабочай сілы; павышэньне якасных паказчыкаў работы, як узьняцьця продукцыйнасьці працы, зьніжэньне сабекошту, а таксама комплектаваньне прадпрыемстваў адпаведнымі кадрамі інжынэрна-тэхнічнага пэрсоналу і кваліфікаванай рабочай сілай.

Цэнтральнай задачай у рабоце прамысловасьці зараз зьяўляецца павышэньне вытворчасьці працы, якасьці продукцыі і зьніжэньне сабекошту. Па БССР павышэньне вытворчасьці працы вызначана па цяжкай прамысловасьці на 19,6 проц., па лёгкай—10,6 проц., па лясной—33,4 проц. Зьніжэньне сабекошту вызначана па цяжкай прамысловасьці на 7,66 проц., па лёгкай прамысловасьці—4,8 проц., па харчовай прамысловасьці—2,2 проц.

Гэтыя задачы патрабуюць рашучай перабудовы работы ўсіх галін народнай гаспадаркі, рашучай барацьбы з усімі праявамі безгаспадарчасьці, разгільдзяйства, барацьбы

з лішкамі ў расходваньні сродкаў. Павінен быць канчаткова замацаваны гаспадарчы разьлік на прадпрыемствах. Патрэбна рашучая барацьба за соцыялістычнае накапленьне, супроць „лявацкай“ недаацэнкі справы контролю рублём і соцыялістычнага накапленьня, рашучай барацьбы з правaопортуністычнай практыкай.

Нам неабходна рашуча падцягнуць паасобныя галіны прамысловасьці, якія ў папярэднія гады недавыконвалі сваіх пляпаў. Гэта датычыцца ў першую чаргу да тарфяной прамысловасьці, прамысловасьці будматэрыялаў. Лёгкая і харчовая прамысловасьць павінны таксама забясьпечыць значнае павышэньне выпрацоўкі прадметаў шырпатрэбу і харчовых продуктаў.

Выкананьне пляну прамысловасьці БССР за першыя 5 месяцаў 1933 г. паказвае, што бальшавіцкая барацьба за прамфінплян яшчэ не разгорнута, работа прамысловасьці не перабудавана цалкам у адпаведнасьці з тымі задачамі, якія пастаўлены на першы год другой пяцігодкі. Як па выкананьні колькасных, так і асабліва якасных паказчыкаў у рабоце прамысловасьці за першыя 5 месяцаў ёсьць глыбокія прарывы. Сэзонныя галіны прамысловасьці, як торф і прамысловасьць будматэрыялаў, ідуць з недавыкананьнем пляну каля 50 проц., што пагражае як зрывам палівазабясьпечаньня, так і зрывам будаўні-

чых работ, якія ў гэтым годзе праводзяцца ў напрамку сканчэньня і засваеньня будаўніцтва тых прадпрыемстваў, якія пачаты ў першай пяцігодцы.

Пакончыць з ганебным адставаньнем пасобных галін прамысловасьці, сваячасова выканаць заданьні па рамонту ўборачных машын, палепшыць якасьць продукцыі прамысловасьці і шырпатрэбу — такава задача. Комуністы, комсамольцы, перадавыя ўдарнікі на вытворчасьці павінны яшчэ вышэй узьняць хвалю соцспаборніцтва, сваім прыкладам распаліць энтузіязм мас, накіраваць яго на пасьпяховае выкананьне плянаў першага году другой пяцігодкі.

## Галоўны бой яшчэ ня скончан

Савецкая Беларусь дабілася вялізарных посьпехаў у галіне соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Мы маем каля 50 проц. колектывізаваных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак; 2800 трактароў працуюць на соцыялістычных палёх БССР і шмат іншых складаных с.-г. машын; створана магутная база палітычнага і організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў і саўгасаў; створаны і працуюць політаддзелы МТС і саўгасаў—цэнтры палітычна-масавай і органі-

затарскай работы ў соцыялістычнай вёсцы. Партыя стварыла ўсе ўмовы для таго, каб зрабіць усе колгасы бальшавіцкімі, усіх колгасьнікаў—заможнымі. Ад нашай работы залежыць хутчэйшае ператварэньне ў жыцьцё гэтага лёзунгу т. Сталіна.

Цэнтральнай задачай у барацьбе за ажыцьцяўленьне лёзунгу правадыра нашай партыі зьяўляецца павышэньне ўраджаю на аснове сваячасовай і высокай якасьці сяўбы, апрацоўкі і ўборкі ўраджаю, сваячасовай здачы дзяржаве сельгаспродуктаў згодна пляну загатовак. Вось чаму КП(б)Б накіравала ўсе свае сілы на вырашэньне гэтай задачы.

Ці справіліся мы як сьлед з задачай сваячасовага правядзеньня сяўбы? Тав. Гікало на нарадзе сакратароў РК і памполітаддзелаў па комсамольскай рабоце сказаў:

„Сяўба ў нас праходзіла кепска, хоць правільна, што сяўбу мы па Беларусі скончылі раней чым у мінулым годзе...

Але нельга параўнаць цяперашні год з леташнім. Гэта значыць не разумець таго, што мы маем ва ўсім Савецкім саюзе і, у прыватнасьці, у нас па БССР. Сёлета мы маем, па-першае, значна лепшы палітычны настрой сярод сялянства і колгасьнікаў. Калі ў мінулым годзе мы мелі выхады колгасьнікаў з колгасаў, а ў паасобных раёнах гэтыя выхады насілі масавы характар, то ў гэтым годзе мы ня толькі ня мелі выхадаў, а, на-

адварот, ёсьць вялікая цяга сярод аднаасобнікаў у колгасы. За гэтую вясну ў колгасы па БССР улілося, паводле далёка няпоўных даных, больш за 50 тыс. новых гаспадарак. Па-другое, значна палепшыўся матэрыяльны дабрабыт сялянства.

У мінулым годзе мы мелі нядрэнны ўраджай, прычым сяляне Беларусі ад валавой продукцыі сельскай гаспадаркі здалі дзяржаве па розных загатоўках ня больш 6 проц. Харчовыя рэсурсы нашых колгасаў ў асноўным больш чым здавальняючыя. Нашы колгасьнікі забясьпечаны і хлебам і бульбай. Гэта ня гледзячы на кепскую работу па сяўбе летась, калі каля 10 проц. пасеўнай плошчы аказалася незасеянай. Якасьць апрацоўкі зямлі ў мінулым годзе таксама была не на вышыні. Колькі ў нас было агрэхаў, колькі было неахайнасьці пры правядзеньні пасеўнай кампаніі!? Ня зусім добра ў нас праходзіла і ўборка. І тым ня менш нашы колгасы вышлі з харчамі добра. Нашы сяляне ў колгасах ужо жывуць лепш, чым раней. Гэта і прывяло да таго, што ўвесну гэтага году мы мелі вялікі прылiў у колгасы. Кожны працоўны селянін пачынае пераконвацца ў перавазе колгаснага ладу".

Прыводзячы рад фактаў дрэннай работы паасобных організацый па сяўбе і гаворачы аб уроках мінулага году, т. Гікало ўказаў на тое, што „дрэнная работа па сяўбе павінна

быць кампэнсавана пасьпяховай барацьбой па завяршэньні іншых сельскагаспадарчых работ гэтага першага году другой пяцігодкі".

Гэтае ўказаньне тав. Гікало мы выконваем дрэнна. Важнейшы вучастак сельскагаспадарчых работ—уздым папару па БССР на 1-е ліпеня выкананы толькі на 54,1 проц. Узорана 227.026 гектараў. Толькі шэсьць раёнаў (Віцебскі, Барысаўскі, Бялыніцкі, Бярэзінскі, Горацкі і Пухавіцкі) выканалі ў тэрмін заданьне партыі і ўраду па ўздыму папару.

Заходняя вобласьць, з якой БССР спаборнічае, нас абагнала. Там к 30 чэрвеня выкананы поўнасьцю плян па ўздыму 700 тысяч гектараў чыстых папараў. Мы абавязаны неадкладна мобілізаваць актыўнасьць колгасьнікаў і працоўных аднаасобнікаў на сканчэньне ў бліжэйшыя дні ўздыму папараў, поліва і разгортваньне падрыхтоўкі да ўборкі.

Зараз разгарнулася праполачная кампанія. Неабходна яе правесьці сваячасова і добраякасна. Мы абавязаны ўзмоцнена даглядаць ураджай, ахоўваць кожнае зерне, каб сабраць сапраўды бальшавіцкі ўраджай. Прычым уборку ўраджаю трэба правесьці ў найкарацейшы тэрмін, каб поўнасьцю і сваячасова сабраць увесь ураджай, поўнасьцю, сваячасова і ў першую чаргу здаць што належыць дзяржаве. Мы сёлета лепш апрацавалі глебу, раней скончылі сяўбу і маем усе ўмовы для

пасьпяховага правядзеньня ўсіх надыходзячых сельскагаспадарчых работ.

Між тым, у некаторых організацыях БССР ужо зараз адчуваецца заспакаеньне і бескла-погнасьць наконт выкананьня надыходзячых задач. Трэба сказаць, што яшчэ далёка недастаткова разгорнута політычна-масавая работа вакол задачы своечасовай здачы збожжа і бульбы дзяржаве, каб на працягу жніўня і верасьня поўнасьцю выканаць свае абавязкі перад дзяржавай па збожжы і не пазьней кастрычніка—па бульбе.

Нам прадстаіць здаць дзяржаве 8,5 млн. пудоў збожжа, звыш 30 млн. пудоў бульбы (550 тыс. тон), з іх 15 млн. пудоў бульбы Ленінграду.

> „Мы маем усе магчымасьці, каб выканаць гэтыя задачы. Але для гэтага трэба справу закруціць так, каб усюды адчувалася біцьцё тэмпаў нашай бальшавіцкай работы" (Гікало).

Добрасумленна, організавана і ва ўстаноўленыя тэрміны правесьці загатоўкі—выканаць свае абавязкі перад дзяржавай—гэта значыць на справе паказаць сваю адданасьць партыі, даказаць моц і непахіснасьць колгаснага ладу. Клясавы вораг прыме ўсе меры, каб дэзорганізаваць загатоўкі. Партыя папярэджвала, што і ў гэтым годзе мы непазьбежна сустрэнемся з буржуазнымі, антыдзяржаўнымі тэндэнцыямі,

з імкненьнем утаіць, разбазарыць, раскра социялістычны ўраджай. Меўшае месца ўтойваньне разьмераў ураджаю ў Адэскай вобласьці, аб чым папярэджвалі тт. Сталін і Молатаў у сваёй тэлеграме адэскаму губкому, факты ашукваньня дзяржавы шляхам перапамяншэньня ўраджайнасьці ў радзе колгасаў, саўгасаў і па аднаасобным сэктары, што выкрыта і рашуча асуджана пастановай ЦК КП(б)Б і СНК БССР, усё гэта падцьвярджае наяўнасьць такіх антыдзяржаўных тэндэнцый, супроць якіх трэба абрушыцца ўсёй сілай.

Загатоўкі будуць праходзіць ва ўмовах жорсткай клясавай барацьбы. Клясавы вораг, кулакі, антысавецкія элемэнты будуць імкнуцца сарваць гэтую важнейшую задачу партыі. Мы павінны выкрыць ворага там, дзе ён яшчэ захаваўся, разграміць яго дашчэнту. Трэба глыбока растлумачыць колгасьнікам і аднаасобнікам выгаднасьць хутчэйшага выкананьня свайго доўгу перад дзяржавай. Паставіць справу так, каб колгасьнікі і аднаасобнікі з першага абмалоту здалі збожжа і адразу з поля везьлі бульбу на здатачныя пункты— такава неадкладная задача.

Другі усебеларускі зьезд ударнікаў-колгасьнікаў социялістычных палей, які зьбіраецца ў дні сьвяткаваньня 13-годзьдзя вызваленьня БССР ад белапалякаў, зьявіцца магутнай дэманстрацыяй перамог колгаснага ладу, непарушнасьці саюзу рабочае клясы

з сялянствам, бязьмежнай адданасьці мільёнаў працоўных мас партыі Леніна, яе Цэнтральнаму Комітэту, правадыру партыі і рабочае клясы, настаўніку і другу колгасных мас т. Сталіну. Гэты зьезд мобілізуе шырачэзныя масы колгасьнікаў і працоўных аднаасобнікаў на пераможнае завяршэньне сельскагаспадарчых работ гэтага году.

Пры належнай бальшавіцкай організаванасьці і напорыстасьці, разгарнуўшы політмасавую работу сярод колгасных мас і аднаасобнікаў, узьняўшы іх на баявое завяршэньне ўсіх сельгасработ, уключаючы выкананьне пляну загатовак, мы выйграем наш галоўны бой, бой за бальшавіцкія колгасы, за заможных колгасьнікаў, за соцыялізм.

## Вышэй клясавую пільнасьць

Мы будуем соцыялізм ва ўмовах жорсткай клясавай барацьбы ўнутры краіны, у варожым капіталістычным акружэньні. Гэта патрабуе ад нас асабліва тут у БССР, як пагранічнай рэспублікі, высокай клясавай пільнасьці, высокіх паказчыкаў работ на ўсіх вучастках соцыялістычнага будаўніцтва, узмоцненай увагі да задач узьняцьця абароназдольнасьці краіны.

Працоўныя БССР у дні сьвяткаваньня 13-годзьдзя вызваленьня ад белапольскай окупацыі будуць падводзіць вынікі сваёй работы,

сваіх дасягненьняў і перамог. Нам неабходна ў гэтыя дні з асаблівай сілай прыкаваць увагу шырокіх мас да рэалізацыі важнейшых гаспадарча-палітычных задач, што стаяць перад намі ў гэты час. Адзначым сьвята вызваленьня БССР новымі перамогамі на вытворчасьці і ў сельскай гаспадарцы, ліквідацыяй наяўных прарываў на гэтых вучастках, таксама і на фронце нацыянальна-культурнага будаўніцтва, яшчэ большым згуртаваньнем радоў партыі ачышчаючы іх ад няўстойлівых, прымазаўшыхся і разлажыўшыхся элемэнтаў.

У дні сьвяткаваньня 13-годзьдзя вызваленьня ад белапалякаў працоўныя БССР сумесна з працоўнымі народамі ўсяго Савецкага Саюзу адзначаюць яшчэ адну гістарычную дату. 6 ліпеня спаўняецца 10 год існаваньня Савецкай констытуцыі, абвясьціўшай аб утварэньні Саюзу савецкіх соцыялістычных рэспублік.

„У гісторыі савецкай улады гэты дзень зьяўляецца пераломным. Ён кладзе вехі паміж старым, ужо пройдзеным пэрыодам, калі савецкія рэспублікі, хоць і дзейнічалі супольна, але ішлі ўрозь, занятыя перш за ўсё пытаньнем свайго існаваньня, і паміж новым, ужо адкрыўшымся пэрыодам, калі асобнаму існаваньню савецкіх рэспублік кладзецца канец, калі рэспублікі аб'ядноўваюцца ў адзіную саюзную дзяржаву для пасьпяховай барацьбы з гаспадарчай разрухай, калі савецкая ўлада

думае ўжо ня толькі аб існаваньні, але і аб тым, каб разьвіцца ў міжнародную сілу, якая можа ўзьдзейнічаць на міжнародную абстаноўку, якая можа зьмяніць яе ў інтарэсах працоўных" (Сталін).

Пад сьцягам бальшавіцкай партыі, кіруемай ленінскім ЦК і лепшым вучнем Леніна, любімейшым правадыром і настаўнікам мільённых мас працоўных народаў СССР і ўсяго сьвету — т. Сталіным, пролетарыят і колгаснае сялянства БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б, яе бальшавіцкага ЦК з лепшым бальшавіком т. Гікало на чале, пойдуць наперад па шляху да новых перамог соцыялізму, па шляху надыходзячага сусьветнага Кастрычніка.

## Зьмест

ЦАНА 20 кап.


НА БЕЛОРУССКОМ ЯЗЫКЕ

Агитмассовый отдел
ЦК КП(б)Б

Блок-нот агитатора
№ 15 (30) июль

11 июля

(К дню 13-летия освобождения БССР от белополяков)

Партийное Издательство

Минск — 1933